Наша ПРАВА

Інфармацыйны бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"

№ 2
сьнежань
1999

адрэса для допісаў: а/с 90 Наваполацак-7 211440 тэл.\факс (8-02144) 5-41-30 e-mail: andy@nvp.belpak.vitebsk.by



# ПІКЕТ НАВАПОЛАЦКІХ ПРАВААБАРОНЦАЎ

Андрэй Аляксандраў

**10 сьнежня ў Наваполацку каля Гарадзкога палацу культуры прайшоў пікет, мэтай якога стала выказваньне пратэсту супраць парушэньня правоў чалавека на Беларусі. Заяву на правядзеньне акцыі ў гарвыканкам падала ініцыятыўная група грамадзянаў, у склад якой уваходзілі мясцовыя прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна" і Наваполацкага аддзелу Маладога Фронту.**



*"Не - саюзу з Расеяй!"*

*Пікетоўшчыкі распаўсюджваюць праваабарончую літаратуру*

*Удзельнікі пікету 10.12.99г.*



Дата акцыі была абраная невыпадкова. Менавіта 10 сьнежня адзначаецца гадавіна прыняцьця Гэнэральнай асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў у 1948 годзе Дэклярацыі Правоў Чалавека. Для праваабаронцаў усяго сьвету гэты дзень ёсьць сьвятам. Але на Беларусі "сьвяткаваньні" даводзіцца праводзіць у пікетах...

Асноўным парушэньнем правоў грамадзянаў сёньняшняй Беларусі пікетоўшчыкі лічуць падпісаньне дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы паміж нашай краінай і Расійскай Фэдэрацыяй. На думку ўдзельнікаў акцыі, гэтая дамова ставіць пад пагрозу незалежнасьць Беларусі й парушае правы беларускага народу на самавызначэньне. У знак пратэсту супраць гэтага пікетоўшчыкі спалілі праект саюзнай дамовы. Абсалютная большасьць навапалачанаў, якія сталі сьведкамі акцыі, выказалі сваю падтрымку яе ўдзельнікам, падкрэсьліўшы сваё нэгатыўнае стаўленьне да саюзу з Расеяй. "Саюз патрэбны толькі двум людзям - Ельцыну ды Лукашэнку", -- нярэдка зьляталі з вуснаў навапалачанаў гэткія выказваньні. Так што заявы кіраўніцтва краіны аб быццам-бы ўсеагульнай падтрымцы ідэі ўтварэньня саюзу не знайшлі аніякіх пацьверджаньняў.

Падчас пікетаваньня таксама была выказаная занепакоенасьць уціскам уладаў на сродкі масавае інфармацыі й шматлікімі парушэньнямі іншых правоў чалавека на Беларусі. Удзельнікі акцыі распаўсюджвалі праваабарончую літаратуру, у тым ліку -- Інфармацыйны бюлетэнь "Наша права".

■

*Працяг тэмаў Дэклярацыі правоў чалавека і падпісаньня саюзнай дамовы -- на наступных старонках*

## У НУМАРЫ

*Артыкул 3*

Кожны чалавек мае права на жыцьцё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасьць.

*Артыкул 4*

Ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве ці ў зьняволеным стане; рабства і гандаль рабамі забараняюцца ва ўсіх відах.

*Артыкул 5*

Ніхто не павінен падвяргацца катаваньням ці жорсткім, бесчалавечным ці зьневажаючым ягоную годнасьць відам стаўленьня ці пакараньня.

*Артыкул 6*

Кожны чалавек, дзе-б ён ні знаходзіўся, мае права на прызнаньне яго суб'ектам права.

*Артыкул 7*

Усе людзі ёсьць роўнымі перад законам і маюць права, без усялякага адрозьненьня, на роўную абарону з боку закону. Усе людзі маюць права на роўную абарону ад любой дыскрымінацыі, якая парушае гэтую Дэкларацыю, ці ад любога падбухторваньня да гэткай дыскрымінацыі.

*Артыкул 8*

Кожны чалавек мае права на эфэктыўнае аднаўленьне ў правах кампэтэнтнымі нацыянальнымі судамі ў выпадках парушэньняў ягоных асноўных правоў, якія прадастаўляюцца яму канстытуцыяй і законам.

*Артыкул 9*

Ніхто ня можа быць падвергнуты адвольнаму арышту, затрыманьню ці выгнаньню.

*Артыкул 10*

Кожны чалавек, дзеля вызначэньня сваіх правоў і абавязкаў і дзеля абгрунтаваньня крымінальнага абвінавачваньня, якое яму прад'яўляецца, мае права, на аснове поўнае роўнасьці, на тое, каб ягоная справа была разгледжаная галосна ды з захаваньнем усіх патрабаваньняў справядлівасьці незалежным судом.

*Артыкул 11*

1. Кожны чалавек, які абвінавачваецца ў зьдзяйсьненьні злачынства, мае права лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль ягоная віна ня будзе ўстаноўленая законным парадкам шляхам галоснага судовага разгляду, пры якім яму забясьпечаныя ўсе магчымасьці для абароны.

2. Ніхто ня можа быць асуджаны за злачынства на падставе ажыцяўленьня нейкага дзеяньня альбо бяздзеяньня, якія падчас іхняга зьдзяйсьненьня не складалі злачынства згодна з нацыянальнымі законамі ці з міжнародным правам. Ня можа таксама накладацца пакараньне больш цяжкае, чым тое, якое магло быць накладзенае ў той час, калі злачынства было зьдзейсьненае.

*Артыкул 12*

Ніхто ня можа падвяргацца адвольнаму ўмяшальніцтву ў ягонае асабістае й сямейнае жыцьцё, пасягальніцтву на недатыкальнасьць ягонага жытла, таямніцу ягонае карэспандэнцыі ці на ягоны гонар і рэпутацыю. Кожны чалавек мае права на абарону закона ад гэткіх умяшальніцтваў ці гэткіх пасягальніцтваў.

працяг на старонцы 6

# У Наваполацку за мінулы год зьдзейсьнена 1324 злачынствы

Андрэй Аляксандраў

За мінулы год у Наваполацку зьдзейсьнена 1324 злачынствы - на 52 больш, чым у 1998 годзе. Кожнае трэцяе злачынства засталося нераскрытым.

За год зьдзейсьнена 21 забойства - столькі ж, колькі за тры папярэдніх гады разам. Ужо другі год запар супрацоўнікам крымінальнага вышуку ўдаецца раскрыць усе зь іх. На фоне агульнага скарачэньня выпадкаў забойстваў (па рэспубліцы - на 4%, па Віцебскае вобласьці - на 23%) Наваполацак можа паспрачацца за "крывавае першынство" па колькасьці гэтых злачынстваў на душу насельніцтва.

Найчасцей сярод відаў злачынстваў сустракаліся крадзяжы. У 1999 годзе іх адзначана 669, што на 20% болей, чым у 1998-м. Раскрыта 299, г.зн. меней за палову. Найбольш распаўсюджанымі апынуліся кватэрныя крадзяжы (274 выпадкі -- раскрыта 134).

За мінулы год таксама зафіксавана:
- 21 выпадак нанясеньня цяжкіх цялесных пашкоджаньняў - раскрыта 16;
- 70 рабаўніцтваў - раскрыта 45;
- 7 згвалтаваньняў - усе зь іх раскрытыя;
- 36 крадзяжоў аўтатранспарту - раскрыта 9;
- 66 выпадкаў хуліганства - раскрыта 50.

У 1999 годзе ў Наваполацку адзначана 193 эканамічных злачынствы. 11 крымінальных справаў і 82 адміністратыўныя пратаколы былі складзеныя за незаконныя валютныя апэрацыі.

Больш за 10 тысячаў навапалачанаў прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасьці. Зь іх болей за 4 тысячы - за зьяўленьне ў нецьвярозым стане ў грамадзкіх мейсцах.

***1 ліпеня 1999 г. уступіў у дзеяньне новы Жыльлёвы Кодэкс Рэспублікі Беларусь. У яго перайшло шмат пунктаў былога Кодэксу, але зьявіліся й некаторыя зьмены. Зь імі чытачоў "Нашага права" знаёміць юрыст Праваабарончага Цэнтру "Вясна".***

?Юрыдычная кансультацыя

# Новае ў Жыльлёвым Кодэксе

Згодна з новым Кодэксам можна выдзеліць 3 катэгорыі грамадзянаў сярод тых, чые жыльлёвыя ўмовы патрабуюць паляпшэньня:



У першую катэгорыю ўвайшлі грамадзяне, якім патрэбнае паляпшэньне жыльлёвых умоваў і якія адносяцца да катэгорыі *малазабясьпечаных непрацаздольных*.

Да гэтай катэгорыі належаць таксама грамадзяне:
- жыльлё якіх стала непрыгодным для пражываньня ў выніку стыхійных бедстваў, тэхнагенных і сацыяльных катастрофаў;
- хворыя на актыўную форму туберкулёзу;
- дзеці-сіраты й дзеці, што засталіся без апекі бацькоў і знаходзіліся ў дзіцячых установах, у сваякоў, ці пад апекай пасьля сканчэньня тэрміну знаходжаньня ў дзіцячых установах, у сваякоў, тэрміну апякунства або, зь іх згоды, пасьля навучаньня ў вышэйшай, сярэдняй, сярэдняй спэцыяльнай, прафэсійна-тэхнічнай навучальнай установе, пасля сканчэньня тэрміну службы ва Узброеных Сілах РБ, калі за імі не захавалася жылое памяшканьне, ці калі яны па іншых прычынах ня могуць быць заселеныя ў жылое памяшканьне, зь якога выбылі раней.

Гэтыя катэгорыі грамадзянаў маюць права на аднаразовае атрыманьне жылога памяшканьня сацыяльнага карыстаньня з дзяржаўнага жыльлёвага фонду на падставе дагавора найму. Такія памяшканьні могуць выдзяляцца па мейсцы жыхарства.

Які-ж статус гэтага памяшканьня? Яго нельга абмяняць ці прыватызаваць, засяленьне ў яго праводзіцца на падставе ордэра, а не дагавора найму.

Хто з грамадзянаў будзе адносіцца да катэгорыі малазабясьпечаных непрацаздольных, вызначаецца Саветам Міністраў, і пакуль такія крытэрыі ня вызначаныя.

Да другое катэгорыі адносяцца грамадзяне, якім патрабуецца паляпшэньне жыльлёвых умоваў і якія ёсьць *малазабясьпечанымі працаздольнымі*. Яны маюць права на будаўніцтва жыльля за кошт сваіх ашчаджэньняў з прыцягненьнем дзяржаўных ільготных крэдытаў

працяг - на старонцы 8

*Сувэрэннасьць нацыі й дзяржавы -- адна з самых сьвяшчэнных дабротаў супольнага чалавечага існаваньня, і толькі ва ўмовах скажонае, перакуленае сьвядомасьці зьяўляецца патрэба гэта даказваць. Толькі зьнешні вораг ці ўнутраны здраднік можа ў наш час выступаць супраць права народа на самавызначэньне...*

***Васіль Быкаў***

# Ці такі ўжо страшны "чорт",

Мне думалася, што самым бязглуздым дакумантам, які даводзілася раней чытаць, ёсьць лукашэнкаўская канстытуцыя, прынятая на сфальсіфікаваным рэферендуме ў 1996 годзе. Аказваецца, памыліўся. Прапанаваны праект Дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы -- гэта шэдэўр! Праўда, не юрыдычнай дасканаласьці, а, наадварот, юрыдычнай непісьменнасьці ды невуцтва.

Дакумант "нашпігаваны" такімі ляпамі й хібамі, што, калі-б студэнт 1 ці 2 курсу юрыдычнага факультэту наважыўся іх прамовіць выкладчыку на іспыце, ён непазьбежна атрымаў-бы заслужаныя "два" балы. Аднак цяжка верыцца, што ў Лукашэнкі не знайшлося больш-менш адукаваных клеркаў, якія-б патлумачылі "галоўнаму інтэгратару" марнасьць задумы рэалізаваць гэткую бязглуздзіцу ў рэальным жыцьці.

Аналізуючы ўзгаданую Дамову, мы маем сітуацыю, калі на юрыдычным узроўні палітыка пераважае над правам, аб'ектыўнае саступае суб'ектыўнаму, а эмоцыі захлёстваюць лёгіку й здаровы сэнс. На жаль, няўменьне зьдзейсьніць цьвярозы аналіз сітуацыі ўласьцівы ня толькі стваральнікам Дамовы, але й тым асобам, для якіх словы "Беларусь" і "незалежнасьць" могуць ужывацца толькі разам. Паспрабуем разабрацца, ці такі страшны "чорт" (Дамова), якім яго намалявалі. Дзеля гэтага, перш-наперш, неабходна адрозьніваць юрыдычны й палітычны аспэкты праблемы.

Прававы досьвед і аналіз сусьветнай практыкі дазваляе сьцьвярджаць, што існуе толькі 3 варыянты, якія могуць быць зрэалізаваныя пад знакам якога-небудзь саюзу між Беларусьсю ды Расеяй.

**Варыянт першы.** Утвараецца ***канфэдэрацыя***, гэта значыць саюз дзьвюх суверэнных дзяржаваў на аснове нормаў міжнароднага права, што замацоўваецца падпісаным двухбаковым дагаворам. Пры гэтым дзяржавы не губляюць сваёй незалежнасьці й застаюцца паўнавартаснымі суб'ектамі міжнароднага права. Дарэчы, Артыкул 3 Дамовы падкрэсьлівае, што *"Саюзная дзяржава грунтуецца на прынцыпах суверэннай роўнасьці дзяржаваў-удзельнікаў..."*, а Артыкул 6 Дамовы адназначна сьцьвярджае, што *"Кожная дзяржава-удзельніца захоўвае... суверэнітэт, незалежнасьць"*. Дадамо, што ў канфэдэрацыях, дзе дзяржавы цалкам захоўваюць свой суверэнітэт, няма адзінага грамадзянства, агульнай тэрыторыі й сістэмы органаў улады, якія-б мелі права прымаць юрыдычныя акты, абавязковыя на тэрыторыі дзяржаваўудзельніц.

Карацей кажучы, нічога страшнага для Беларусі ад канфэдэрацыі ня будзе. Варта адзначыць, што для стварэньня канфэдэрацыі дастаткова, каб Дамову падпісаў кіраўнік дзяржавы і Парлямант яе ратыфікаваў. Ніякіх усенародных абмеркаваньняў ці рэферэндумаў тут па беларускіх законах не патрабуецца, і, здаецца, дарэмна тут ганьбім тав. Лукашэнку. Калі меўся намер ствараць канфэдэрацыю, ён нічога супрацьзаконнага не зрабіў. Але ня ўсё так проста. Чытаем дакумант далей.

Артыкул 1 гаворыць аб тым, што *"Рэспубліка Беларусь і Расейская Фэдэрацыя ствараюць Саюзную дзяржаву"*, а Артыкул 7 указвае, што *"тэрыторыя Саюзнай дзяржавы складаецца зь дзяржаўных тэрыторыяў дзяржаваўудзельніц"*. Пункт 1 Артыкула 14 усталёўвае адзінае грамадзянства, а згодна з Артыкулам 59 (пункт 1), законы й дэкрэты Саюзнай дзяржавы пасьля іх апублікаваньня непасрэдна прымяняюцца на тэрыторыі кожнай дзяржавыудзельніцы.

Але гэта ўжо прыкметы, якіх у канфэдэрацыі быць ня можа, прычым Артыкулы 1, 7, 14, 59 супярэчаць Артыкулам 3 і 6. Дзе праўда? Разгледзім **другі варыянт,** які таксама гаворыць пра саюз, але не канфэдэратыўны, а фэдэратыўны.

Узгаданыя Артыкулы 1, 7, 14, 59 ды многія іншыя сьведчаць аб тым, што ўсёж такі Дамова ў большай ступені скіраваная на стварэньне ***фэдэрацыі***. Нагадаем, што фэдэрацыя - гэта ўжо не саюз суверэнных дзяржаваў, а дзяржаўны саюз. Яго ўдзельнікі ні ў якім разе ня могуць заставацца незалежнымі, бо ствараецца фэдэральны цэнтар, які мае права прымаць рашэньні, выкананьне якіх ёсьць абавязковым для ўсіх суб'ектаў фэдэрацыі. Аднак, увесь фокус у тым, што дзяржавы, што ўтвараюць фэдэрацыю, губляюць суверэнітэт, і для міжнароднай супольнасьці яны проста зьнікаюць як суб'екты права. У міжнародным праве гэткі выпадак мае назву -- **зьліцьцё дзяржаваў.** Вынікам гэтага ёсьць утварэньне новага суб'екта міжнародных адносінаў. Уводзіцца адзінае грамадзянства, валюта, заканадаўства, узброеныя сілы і г.д.

Менавіта гэты варыянт прагладаецца з тэксту Дамовы. Ён -- самы выгадны для Лукашэнкі, але ня мае ніякіх шанцаў рэалізавацца ў Расеі й, што самае галоўнае, нават на Беларусі.

Зараз Расея сама ёсьць фэдэрацыяй, што створаная па нацыянальным прынцыпе, і яе тэрыторыя складаецца з тэрыторыяў суб'ектаў фэдэрацыі, сярод якіх - 31 нацыянальны суб'ект (Татарстан, Башкартастан, Інгушэція і інш.). Кіраўнікі ўсіх гэтых нацыянальных утварэньняў складаюць вышэйшую палату расейскага Парляманту (Савет Фэдэрацыі), а без дазволу гэтай структуры ня можа быць прыняты ніводзін юрыдычны акт, які кранае пытаньні дзяржаўнага ўладкаваньня Расейскай Фэдэрацыі (пункт 2 Артыкула 135 Канстытуцыі РФ). Кіраўнікі суб'ектаў фэдэрацыі, якія ствараюць другі эшалён дзяржаўнай улады ў Расеі (пасьля агульнафэдэральнага), ніколі ў жыцьці не прагаласуюць за саюз-фэдэрацыю між Расеяй і Беларусьсю, бо ў такім выпадку іхні статус аўтаматычна панізіцца з узроўню суб'ектаў фэдэрацыі да ўзроўню суб'ектаў аўтаноміі (якімі яны былі ў складзе СССР).



Добра сьмяецца той, хто сьмяецца апошні...

Безумоўна, ніводзін зь іх на гэткае паніжэньне не пагадзіцца, бо яны губляюць амаль усё, але нічога не будзецца, яго правядзеньне будзе жорстка кантралявацца міжнароднай супольнасьцю, і пры першым адзіны для яго варыянт здабыць Крэмаль. Іншых няма. Ён гэта мусіць разумець. Але разумее й тое, стытуцыйны лад", бо арт.9 Канстытуцыі адназначна сьцьвярджае, што "тэрыторя Беларусі адзіная і неадчужальная".

# Якім яго намалявалі?

набываюць. Прычым, ніякі ельцынскі подпіс пад Дамовай тут юрыдычна нічога не вырашае, бо дазвол на зьмяненьне статуса Расеі можа даць толькі Савет Фэдэрацыі.

Да таго-ж, перагляд расейскай Канстытуцыі магчымы толькі на Канстытуцыйным Сходзе альбо рэферэндуме, але згодна з расейскімі законамі гэткія мерапрыемствы не праводзяцца ў год, калі адбываюцца выбары ў Парлямант альбо выбары Прэзыдэнта (гэта значыць у 1999 і 2000 гадах усё будзе "ціха"). Значыць, з боку Расеі нам у бліжэйшы час нам нічога не пагражае (як гэта ні дзіўна гучыць), калі падзеі будуць разгортвацца па гэткім сцэнары.

На Беларусі "галоўнага інтэгратара" чакаюць свае праблемы. Калі наша дзяржава згубіла статус унітарнай (Артыкул 1 Канстытуцыі РБ) і ўвайшла ў склад фэдэратыўнай дзяржавы (што фактычна й юрыдычна азначае страту незалежнасьці), неабходна правесьці рэферэндум (частка 3 Артыкул 140 Канстытуцыі РБ). Гэта значыць, што Лукашэнкаўскі подпіс пад Дамоваю і нават ратыфікацыя Дамовы Нацыянальным Сходам яшчэ ні аб чым не гаворыць. Трэба, каб гэтая ініцыятыва была падтрыманая на рэферэндуме і каб за яе прагаласавала ня меньш за 50% асобаў, якія ўнесеныя ў выбарчыя сьпісы. Столькі галасоў набраць немагчыма, бо гэта значна больш, чым зьбіраў Лукашэнка на выбарах 1994 году й на рэферэндуме 1996 году (не дарэмна ён пайшоў на маштабныя фальсіфікацыі, бо прадчуваў паразу). Ня трэба нікога ўпэўніваць, што за гады свайго кіраваньня яго папулярнасьць сыйшла на нішто. Прынамсі, назьбіраць больш за 3 мільёны галасоў немагчыма. Зноў фальсіфікацыі? Ня пройдзе. Калі рэферэндум і адмахляваньні вынікі рэферэндуму будуць абвешчаныя АБСЕ, Саветам Эўропы юрыдычна неправамоцнымі. Чаму? Пра тое гаворка пазьней, калі высьветлім палітычны бок праблемы. Калі Лукашэнка праігнаруе такое заключэньне (што цалкам верагодна), і падпіша вынікі такога ілжэ-рэферэндуму, для Беларусі гэта ня будзе мець ніякіх прававых наступстваў (гэта пацьвердзяць усе міжнародныя структуры). Мала таго, узгадаюць яшчэ Лукашэнку і пра яго нелігітымнасьць з 21 ліпеня 1999 г. Такім чынам, новаўтвораную дзяржаву не прызнаюць суб'ектам міжнароднага права. Яна што ёсьць, што яе няма. Так бы мовіць, саюз для ўнутранага карыстаньня. Падаецца, што гэты варыянт самы нерэальны, хаця менавіта ён прагладаецца скрозь тэкст Дамовы.

Застаецца разглядзіць **<u>трэці варыянт</u>**, які не прадугледжаны Дамовай, але значна больш верагодны, чым другі. Размова ідзе пра ***<u>далучэнне Беларусі да Расеі</u>***. Гэта -- самы цяжкі й заганны варыянт для нашай краіны. У выніку яго рэалізацыі Расія свой статус не змяняе, а толькі "дарастае" новым суб'ектам. Прычым у Расіі ўсе будуць толькі "за", і ніякіх рэферэндумаў праводзіць ня трэба (ч.2 арт.65 Канстытуцыі РФ). Беларусь жа губляе ўсё. З поўнавартаснай дзяржавы яна ператвараецца ў шэраговую тэрыторыю са статусам суб'екта Расейскай Фэдэрацыі, нароўні, напрыклад, з Іванаўскай або Тамбоўскай губэрніямі, а кіраўнік беларускай дзяржавы -- больш ніякі не прэзыдэнт суверэннай дзяржавы, а толькі адзіны са шматлікіх членаў Савета Фэдэрацыі. Але ў такім выпадку, усім грамадзянам Беларусі навязваецца грамадзянства Расіі, і, увага (!) Лукашэнка мае законныя правы ўдзельнічаць у выбарах Прэзыдэнта Расеі. Гэта што калі яго дапусьцяць да расейскага электарату, ён беспраблемна пераможа на прэзідэнтскіх выбарах, выкарыстоўваючы тую-ж дэмагогію, што й на выбарах ў Беларусі 1994 г. Лукашэнка мусіць рызыкаваць, бо разумее, што на Беларусі яму - "гамон". Ён больш ня мае ўнутраных рэсурсаў і пакідае разрабаваную зямлю і беларусаў, даведзеных да галечы й замардаваных маральна, якія яго ненавідзяць. Час расплаты няўмольна набліжаецца. Адзіны шанец - зьбегчы на неабсяжную расейскую прастору й шукаць магчымасьцяў застацца ва ўладзе, што гарантуе недатыкальнасьць як асобы. Каб зьбегчы ад кары, Лукашэнка, не раздумваючы, кіне ў полымя


*Галоўнага інтэгратара чакаюць праблемы...*

расейскага "беспредела" 10-ці мільённы беларускі народ. Гэткаму разьвіцьцю падзеяў ёсьць толькі дзьве перашкоды.

Зноў-такі, каб далучыць Беларусь да якой-небудзь дзяржавы, неабходна праводзіць рэфэрэндум (гэты варыянт намі праанілізаваны).

Другі шлях - дзейнічаць у адпаведнасьці з арт.1 Канстытуцыі РБ, які дазваляе бараніць *"сваю незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, кан-*

Хачу яшчэ раз зазначыць: грамадзяне, Канстытуцыя на нашым баку! Ніякіх стварэньняў кшталту фэдэрацыі (2-гі варыянт) альбо далучэньня да іншай дзяржавы (3-ці варыянт) Асноўны Закон не прызнае! Дапушчальны толькі першы варыянт (пра што сьведчыць частка 2 Артыкула 8 Канстытуцыі РБ), калі Рэспубліка Беларусь *"у адпаведнасьці з нормамі міжнароднага права можа на добраахвотнай аснове ўваходзіць у міждзяржаўныя ўтварэньні й выходзіць зь іх"*, гэта значыць -- утварыць канфэдэрацыю. Другі й трэці варыянты супярэчаць Канстытуцыі, прычым ч.3 Артыкула 8 Канстытуцыі падкрэсьлівае, што *"не дапускаецца заключэньне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі"*.

Падводзячы рысу пад разважаньнямі, адзначым галоўнае. Тая паперка, што называецца Дамовай аб стварэньні Саюзнай дзяржавы, мала таго, што падпісаная нелегітымнай службовай асоба і непрызнаным парлямантам-- бязглуздая й супярэчлівая як юрыдычны дакумант, яна, самае галоўнае, супярэчыць беларускаму заканадаўству. Адпаведна, усе службовыя асобы, якія будуць настойваць на яе рэалізацыі, павінны разглядацца няйнакш, як злосныя парушальнікі Канстытуцыі. Артыкул 61 Крымінальнага кодэксу РБ называе такія дзеяньні **<u>злачынствам</u>**, бо размова йдзе пра **<u>здраду дзяржаве</u>**.

Зараз - пра палітычны аспэкт праблемы. Беларусь ня ёсьць вырашальным фактарам ў гэапалітыцы й таму вымушаная падстройвацца пад існуючыя правілы, што вызначаюць вялікія (перш за ўсё, ядзерныя) дзяржавы. А сітуацыя такая. НАТА пашырылася на Ўсход і ўсходняя мяжа блёку праходзіць па мяжы Польшчы й Беларусі. НАТА валодае ядзернай зброяй і Расея таксама. Партнёрамі яны ніколі ня будуць.

*працяг - на старонцы 6*

*Артыкул 13*

1. Кожны чалавек мае права вольна перамяшчацца й выбіраць сабе мейсца жыхарства ў межах кожнай дзяржавы.

2. Кожны чалавек мае права пакідаць любую краіну, у тым ліку й сваю ўласную, і вяртацца ў сваю краіну.

*Артыкул 14*

1. Кожны чалавек мае права шукаць сховішча ад перасьледу ў іншых краінах і карыстацца гэтым сховішчам.

2. Гэтае права ня можа быць выкарыстанае ў выпадку перасьледу, які сапраўды грунтуецца на зьдзяйсьненьні непалітычнага злачынства ці дзеяньня, якое супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

*Артыкул 15*

1. Кожны чалавек мае права на грамадзянства.

2. Ніхто ня можа быць адвольна пазбаўлены свайго грамадзянства ці права зьмяніць сваё грамадзянства.

*Артыкул 16*

1. Мужчыны й жанчыны, якія дасягнулі паўнагадовага ўзросту, маюць права без усялякіх абмежаваньняў па прыкметах расы, нацыянальнасьці ці рэлігіі брацца шлюбам і засноўваць сям'ю. Яны карыстаюцца аднолькавымі правамі, калі бяруцца шлюбам, знаходзяцца ў шлюбе й падчас скасаваньня шлюбу.

2. Бакі могуць брацца шлюбам толькі пры вольнай і поўнай згодзе абодвух зь іх.

3. Сям'я ёсьць натуральнай і асноўнай ячэйкай грамадзтва і мае права на абарону з боку грамадзтва й дзяржавы.

*Артыкул 17*

1. Кожны чалавек мае права валодаць маёмасьцю як адзінаасобна, так і сумесна зь іншымі.

2. Ніхто не павінен быць адвольна пазбаўлены сваёй маёмасьці.

*Артыкул 18*

Кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумленьня й рэлігіі; гэтае права ўключае свабоду зьмяняць сваю рэлігію ці перакананьні і свабоду спавядаць сваю рэлігію ці перакананьні як адзінаасобна, так і сумесна зь іншымі, публічным ці прыватным парадкам у вучэньні, набажэнстве ці выкананьні рэлігійных і рытуальных парадкаў.

*Артыкул 19*

Кожны чалавек мае права на свабоду перакананьняў і на іх свабоднае выказваньне; гэтае права ўключае свабоду без перашкодаў прытрымлівацца сваіх перакананьняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю й ідэі любымі сродкамі й незалежна ад дзяржаўных межаў.

*Артыкул 20*

1. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцыяў.

2. Ніхто ня можа быць прымушаны ўступіць у нейкую асацыяцыю.

працяг на старонцы 7

# Ці такі ўжо страшны "чорт", якім яго намалявалі?

*працяг са старонак 4-5*

Па ўсіх правілах палітыкі, паміж краінамі, якія адносяцца да палярных блёкаў, павінны пралягаць нэйтральны (бязьядзерны) кардон. Па волі лёсу, у XX стагоддзі ён праходзіць празь беларускую тэрыторыю. Нельга ўявіць, каб пад Беластокам у Польшчы й пад Гародняй у Беларусі (адлегласьць паміж двума гарадамі -- 60 км), насупраць адна адной паўсталі стратэгічныя вайсковыя базы. ЗША гэта разумеюць і таму ніколі не дапусьцяць, каб Беларусь далучылася да Расеі, бо сьледам за палітычным аб'яднаньнем на тэрыторыю нашай краіны вернецца расейская ядзерная зброя. Захад можа націснуць на Расею, каб такая небясьпека ня здарылася. Дастаткова не даць Расеі крэдытных ін'екцыяў, і яна заб'ецца ў сутаргах, як наркаман. Яе бюджэт інакш ужо функцыянаваць ня можа. Як ні горка ўсьведамляць, зноў ад беларусаў мала што залежыць, і гарантам незалежнасьці нашай краіны зьяўляецца не прэзыдэнт Лукашэнка (як таго патрабуе Канстытуцыя ў арт. 79), а прэзыдэнт Клінтан (як таго патрабуе сусьветная бясьпека). Вось такія парадоксы ў сучаснай палітыцы.

Сказанае не азначае, што трэба сядзець і спакойна назіраць за тым, як Лукашэнка з кампаніяй марна намагаецца прабіваць юрыдычныя ды палітычныя перапоны. Сёньняшні прэзыдэнт не з Месяца зваліўся, ён -- заканамернае спараджэньне нашага часу, дакладней -- нас з вамі. Таму, зьмяняючы сябе па асобку, мы здольныя стварыць грамадзтва, якое будзе прадукаваць не разбуральнікаў, а абаронцаў нашай незалежнасьці, нашай з вамі жыцьцёвай пэрспэктывы. ■

# ПРАТЭСТ ДАЦЭНТА ГДМІ

"Права на волю"

ГАРОДНЯ. 8 сьнежня ў знак пратэсту супраць падпісаньня дамовы пра стварэньне саюзнае дзяржавы Беларусі й Расеі з Гарадзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытуту звольніўся дацэнт катэдры паталягічнае фізіялёгіі Сяргей Мальчык. Ён распаўсюдзіў заяву, у якой гэтак тлумачыць прычыну свайго звальненьня: "8 сьнежня А.Лукашэнка, які незаконна займае пасаду прэзыдэнта, учыніў цяжкае дзяржаўнае злачынства -- зьнішчыў незалежнасьць Рэспублікі Беларусь. У тым, што адбылося, ёсьць доля віны кожнага з нас. Але найбольшая віна за існаваньне гэтага рэжыму кладзецца на кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстановаў, у тым ліку нашага інстытуту... Бяздумна выконваючы пісьмовыя й вусныя загады зьверху, вы праводзіце ў жыцьцё палітыку існуючага марыянетачнага рэжыму." ■

# ДВАЙНАЯ ЗДРАДА

"Права на волю"

МАСКВА. **Неадназначна было ўспрынятае падпісаньне саюзнай дамовы шэрагам расейскіх дэмакратычных партыяў і рухаў. З заявай выступіла Цэнтральная Каардынацыйная Рада Расейскае партыі Дэмакратычны Саюз.**

"У сьнежні два народы, расейскі і беларускі, змогуць адзначаць адразу два горкія юбілеі. 22 сьнежня яны будуць успамінаць, як бальшавікі загналі іх у агульную клетку пад назвай СССР, а 8 сьнежня можна будзе адзначаць як іх, пасьля нядоўгае прагулкі, у гэтую клетку вярнулі.

Калі беларускі сатрап Лукашэнка, які даўно перастаў быць законным прэзыдэнтам, заўсёды марыў здаць свой народ у абноўленую расейскую імперыю і ніколі ня ўтойваў гэтага, калі ён некалі прыйшоў да ўлады зь лёзунгамі прадажніцтва й нацыянальнае здрады і зараз выканаў свае перадвыбарчыя абяцаньні, пазбавіўшы сваю краіну яе законнага сьцягу, гэрбу, гімну й самое незалежнасьці, дык паводзіны Б.Ельцына здаюцца менш зразумелымі і таму больш вераломнымі.

Расея дастаткова вялікая, небясьпека з захаду ёй не пагражае, а сумнае становішча беларускае эканомікі вядомае ўсім. Ніякія лягічныя прычыны, ніякі нацыянальны інтарэс ня мог падштурхнуць прэзыдэнта Ельцына да заключэньня гэтага супрацьнатуральнага саюзу. Мы ня можам зразумець, чаму ён, замест таго, каб скончыць сваю палітычную кар'еру рэфарматарам, выратавальнікам свайго народу, абаронцам і прыхільнікам правоў і свабодаў, вырашыў скончыць яе гэдак сумна. Барыс Ельцын скончвае свой другі тэрмін на пасадзе прэзыдэнта як сьвядомы кат Чачэніі, таму што выпадкова двойчы не наступаюць на адны й тыя ж граблі, прывязвае Расею да беларускага запаведніку таталітарызму і да палітычнага ізгоя Лукашэнкі і, нарэшце, паўтараючы Гіндэбурга, аддае ўладу над сваім народам і над сваёй сям'ёй у рукі прыхільніка Андропава -- Пуціна -- прадстаўніка той самай Лубянкі, супраць якой расейскі прэзыдэнт змагаўся ў пачатку сваёй кар'еры.

Матывы гэтых нечуваных учынкаў нам не зразумелыя. Але наша трактоўка іх вынікаў ня можа ад гэтага зьмяніцца. Гэта здрадніцтва. Здрадніцтва і забыцьцё Канстытуцыі й свайго дзяржаўнага й чалавечага абавязку. І Расея, якая некалі блаславіла Барыса Ельцына, сёньня мае права яго праклінаць.

*В.Навадворская,*
*Н.Злотнік,*
*М.Кузьменка,*
*В.Цярэшчанка*

*Артыкул 21*

1. Кожны чалавек мае права прымаць удзел у кіраваньні сваёй дзяржавай непасрэдна ці праз свабодна абраных прадстаўнікоў.

2. Кожны чалавек мае права роўнага доступу да дзяржаўнай службы ў сваёй краіне.

3. Воля народа павінна быць асновай улады ўрада; гэтая воля павінна знаходзіць сваё выказваньне ў пэрыядычных і нефальсіфікаваных выбарах, якія павінны праводзіцца пры ўсеагульным і роўным выбарчым праве, шляхам тайнага галасаваньня ці праз іншыя роўназначныя формы, якія забясьпечваюць свабоду галасаваньня.

*Артыкул 22*

Кожны чалавек, як член грамадзтва, мае права на сацыяльнае забеспячэньне й на ажыцяўленьне неабходных дзеля падтрыманьня ягонай годнасьці й дзеля свабоднага развіцьця ягонае асобы правоў у эканамічнай, сацыяльнай і культурнай сфэрах праз нацыянальныя высілкі і міжнароднае супрацоўніцтва і згодна са структурай і рэсурсамі кожнай дзяржавы

*Артыкул 23*

1. Кожны чалавек мае права на працу, на свабодны выбар работы, на справядлівыя й задавальняючыя ўмовы працы й на абарону ад беспрацоўя.

2. Кожны чалавек, без якойсьці дыскрымінацыі, мае права на роўную аплату за роўную працу.

3. Кожны працоўны мае права на справядлівую й задавальняючую ўзнагароду, якая забясьпечвае вартае чалавека існаваньне для яго самога й ягонае сям'і і дапаўняецца, пры неабходнасьці, іншымі сродкамі сацыяльнага забесьпячэньня.

4. Кожны чалавек мае права ўтвараць прафэсійныя саюзы й уваходзіць у прафэсійныя саюзы дзеля абароны сваіх інтарэсаў.

*Артыкул 24*

Кожны чалавек мае права на адпачынак і дасуг, у тым ліку права на разумнае адмежаваньне працоўнага дня й на аплочваемы перыядычны адпачынак.

*Артыкул 25*

1. Кожны чалавек мае права на такі жыцьцёвы ўзровень, у тым ліку ежу, адзеньне, жытло, мэдычнае й сацыяльнае абслугоўваньне, які ёсьць неабходным дзеля падтрыманьня здароўя й дабрабыту яго самога й ягонае сям'і, і права на забеспячэньне на выпадак беспрацоўя, хваробы, інваліднасьці, удаўства, надыходу старасьці ці іншага выпадку страты сродкаў да існаваньня па незалежных ад яго абставінах.

2. Маці й немаўляты маюць права на асаблівы дагляд і дапамогу. Усе дзеці, якія нараджаюцца ў шлюбе ці па-за шлюбам, павінны карыстацца аднолькавай сацыяльнай абаронай.

заканчэньне на старонцы 8

Грамадзкая прыёмная

# Інфармацыя аб дзейнасьці грамадзкай прыёмнай Праваабарончага Цэнтру "Вясна" ў Наваполацку



*7 сьнежня* ў грамадзкую прыёмную Праваабарончага Цэнтру "Вясна" зьвярнуўся сп. Г., манцёр цэха №801 трамвайнага дэпо ВА "Палімір". Ад імя работнікаў дэпо ён папрасіў кансультацыі аб магчымасьці зьмяненьня парадку выплаты заробку. Зараз вылічэньне памеру заробку й працоўнага стажу работнікам дэпо праводзіцца як работнікам бюджэтнай сфэры (жыльлёва-камунальная гаспадарка), а не як работнікам структурнага падразьдзяленьня ВА "Палімір". Работнікі зьвярнуліся ў камісію па працоўных спрэчках вытворчага аб'яднаньня, дзе скарга не была задаволненая. Ад іхняга імя юрысты Цэнтру падалі заяву ў Наваполацкі гарадзкі суд аб зьмяненьні парадку вылічэньня заробку.

*22 сьнежня* зьвярнулася жыхарка горада Паставы спн.Л., якая была беспадстаўна затрымана супрацоўнікамі міліцыі, калі знаходзілася ў Віцебску. Жанчыну пратрымалі больш за 3 гадзіны ў аддзяленьні міліцыі, нягледзячы на тое, што пры ёй былі дакуманты, якія пацьвярджалі яе асобу. Ніякіх тлумачэньняў аб падставах затрыманьня ёй не было прадастаўлена, не складаўся пратакол. Калі нарэшце спн.Л. адпусцілі, яна спазьнілася на цягнік. У пракуратуры, пасьля скаргі спн.Л., дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі былі прызнаныя незаконнымі. Жанчына зьвярнулася ў Віцебскі абласны суд з іскам аб спагнаньні маральнага ўрону ад незаконнага затрыманьня. Юрысты Праваабарончага Цэнтру далі кансультацыі аб паводзінах на працессе. Таксама была забяспечаная прысутнасьць назіральніка на судовым разглядзе справы.



*23 сьнежня* зьвярнуліся спсп.К. і Д., якія былі прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 51 КААП (дробны крадзёж). У віну ім ставіўся крадзёж 30 літраў бензіна з рэзэрвуара на ВА "Нафтан". Аднак гэтае правапарушеньне К. і Д. не зьдзяйснялі, што пацьвярждаецца шэрагам доказаў. Складзена скарга ў Наваполацкую гарадскую пракуратуру на пастанову аб прыцягненьні да адміністратыўнай адказнасьці..

*23 сьнежня* паступіў зварот ад Наваполацкага цэнтру сацыяльнай падтрымкі інвалідаў і сталых людзей. Мясцовы выканаўчы камітэт не даваў згоды на працяг дамовы арэнды памяшканьня, у якім зараз працуе гэтая грамадзкая арганізацыя. Напісана заява ў Віцебскі аблвыканкам з просьбай дапамагчы ў вырашэнні пытаньня з памяшканьнем.



*24 сьнежня* зьвярнулася спн.П., гандлярка цацкамі на рынку. Яна прасіла растлумачыць магчымасьць аспрэчваньня дзеяньняў наймальніка. Наймальнік патрабаваў ад П., каб тая аплаціла ягоныя страты ад недаліку тавараў. Аднак сам факт недахопу ня быў зафіксаваным належным чынам. Калі праводзілася праверка наяўнасьці тавару, сама гандлярка адсутнічала. Спн.П. было растлумачана права адмовіцца ад аплаты недахопу, якім яна скарысталася.



За *снежань 1999 году* юрыстамі Праваабарончага Центру "Вясна" ў Наваполацку былі разгледжаныя пытаньні:

- па Закону аб правох спажыўцаў;
- па спадчыннаму праву;
- аб законнасьці дзеяньняў адміністрацыі гаражнага каапертыва;
- па вылічэньню падаходнага падатку, памеру ягоных ставак;
- аб парадку вяртаньня валюты з рахунку;
- аб парадку вывазу за мяжу замежнай валюты;
- аб далейшым становішчы жыхароў дома пры выкупе дома новым уласьнікам;
- аб парадку высяленьня былога мужа з кватэры;
- аб выпадках прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці за неданясеньне аб рыхтуючымся злачынстве;
- аб парадку адскарджваньня рашэньня камісіі па працоўных спрэчках;
- аб парадку атрыманьня віда на жыхарства й прапіскі;
- аб парадку скасаваньня шлюбу;

і г.д.

***Артыкул 26***

1. Кожны чалавек мае права на адукацыю. Адукацыя павінна быць бясплатнай, з большага ў тым, што тычыцца пачатковай і агульнай адукацыі. Пачатковая адукацыя павінна быць абавязковай. Тэхнічная й прафэсійная адукацыя павінна быць агульнадаступнай, і вышэйшая адукацыя павінна быць аднолькава даступнай для ўсіх на аснове здольнасьцяў кожнага.

2. Адукацыя павінна быць накіраваная на поўнае разьвіцьцё чалавечае асобы й на павелічэньне павагі да правоў чалавека асноўных свабодаў. Адукацыя павінна судзейнічаць узаемаразуменьню, цярпімасьці й сяброўству паміж усімі народамі, расавымі й рэлігійнымі групамі й павінна судзейнічаць дзейнасьці Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў па падтрымцы міру.

3. Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх малагадовых дзяцей.

***Артыкул 27***

1. Кожны чалавек мае права свабодна ўдзельнічаць у культурным жыцьці грамадзтва, атрымліваць асалоду ад мастацтва, удзельнічаць у навуковым прагрэсе й карыстацца ягонымі здабыткамі.

2. Кожны чалавек мае права на абарону сваіх маральных і матэрыяльных інтарэсаў, якія ёсьць вынікам навуковых, літаратурных ці мастацкіх працаў, аўтарам якіх ён зьяўляецца.

***Артыкул 28***

Кожны чалавек мае права на сацыяльны й міжнародны парадак, пры якім правы й свабоды, якія ёсьць выкладзенымі ў гэтай Дэклярацыі, могуць быць цалкам ажыцяўлёныя.

***Артыкул 29***

1. Кожны чалавек мае абавязкі перад грамадзтвам, у якім толькі й магчыма свабоднае і поўнае развіцьцё яго асобы.

2. Пры ажыцяўленьні сваіх правоў і свабодаў кожны чалавек павінен падвяргацца толькі такім абмежаваньням, якія ёсьць усталяванымі законам выключна з мэтай забеспячэньня прызнаньня й павагі да правоў і свабодаў іншых і задавальненьня справядлівых патрабаваньняў маралі, грамадзкага парадку й агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадзтве.

3. Ажыцяўленьне гэтых правоў і свабодаў ні ў якім выпадку не павінна супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'ядналых Нацыяў.

***Артыкул 30***

Нішто ў гэтай Дэклярацыі ня можа быць патлумачана, як прадастаўленьне якой-небудзь дзяржаве, групе асобаў ці асобным людзям права займацца нейкай дзейнасьцю ці ажыцяўляць нейкія дзеяньні, якія накіраваныя на скасаваньне правоў і свабодаў, якія выкладзеныя ў гэтай Дэклярацыі.

Юрыдычная кансультацыя

# Новае ў Жыльлёвым Кодэксе

*працяг са старонкі 3*



(субсыдыяў) ці іншых формаў дзяржаўнай падтрымкі.

<u>Трэцюю катэгорыю</u> складаюць грамадзяне, якім патрабуецца паляпшэньне жыльлёвых умоваў, *працаздольныя і не адносяцца да катэгорыі малазабяспечаных*. Такія грамадзяне маюць пераважнае права на індывідуальнае ці калектыўнае жыльлёвае будаўніцтва.

Калі па былому Кодэксу некаторыя катэгорыі грамадзянаў мелі права на першачарговае атрыманьне жыльля (інваліды Вялікай Айчыннай вайны, інваліды працы 1 і 2 групы і г.д.), то па новаму Кодэксу такім грамадзянам жыльлё прадастаўляецца на агульных умовах.

Па-іншаму ўрэгуляваныя ў Кодэксе некаторыя моманты карыстаньня жылымі памяшканьнямі.

Выкарыстаньне не па прызначэньню прыстасаваных для пражываньня жылых памяшканьняў не дазваляецца. Выкарыстоўваць не па прызначэньню магчыма толькі аднакватэрныя, блакіраваныя жылыя дамы ці іх часткі пры ўзгадненьні зь мясцовымі выканаўчымі органамі.



Карыстаньне жылымі памяшканьнямі дзяржаўнага жыльлёвага фонду ажыцяўляецца на падставе дамовы. Плата за карыстаньне жылым памяшканьнем і за камунальныя паслугі вызначаецца па дамове між наймадаўцам і наймальнікам, калі іншае не прадугледжана законам. Плата бярэцца ўжо зыходзячы з агульнай плошчы памяшканьня, а не жылой, як раней.

Кодэксам прадугледжаныя меры да грамадзянаў, якія сістэматычна не выконваюць свае абавязкі па аплаце кватэрнай платы за памяшканьне зь дзяржаўнага жыльлёвага фонду. Так, Артыкул 71 Кодэксу вызначае, што грамадзяне, якія бяз важкіх прычынаў ухіляюцца ад платы за карыстаньне жылым памяшканьнем і камунальныя паслугі на працягу 6 месяцаў, могуць быць ***<u>выселеныя</u>*** па рашэньню суда. У гэтым выпадку парушальнікаў уселяць у памяшканьне меншай плошчы.

Зьмяніўся парадак правядзеньня рамонту кватэр і замены газавага і санітарна-тэхнічнага абсталяваньня. Згодна з новым Кодэксам незалежна ад таго, прыватызаваная кватэра ці не, рамонт у ёй і замену абсталяваньня жыхары павінны праводзіць ***<u>за свой кошт</u>***.

Такім чынам, мы прааналізавалі толькі асноўныя, найбольш значныя зьмены ў сучасным Жыльлёвым Кодэксе. Зразумела, што разнастайных пытаньняў па даволі складаных жыльлёвых адносінах можа ўзьнікнуць нашмат больш. За дакладнай інфармацыяй Вы можаце зьвяртацца да юрыстаў Праваабарончага Цэнтру "Вясна" па тэлефоне **5-41-30** кожны працоўны дзень.



Пры Праваабарончым Цэнтры "Вясна"

*дзейнічае*

## ГРАМАДЗКАЯ ПРЫЁМНАЯ

**калі Вы лічыце, што Вашы грамадзянскія, працоўныя, сацыяльныя й іншыя правы парушаныя**

зьвяртайцеся за нашай <u>БЯСПЛАТНАЙ</u> дапамогай

кожны працоўны дзень

з 9 да 17 гадзінаў

па тэлефоне ў Наваполацку

**5-41-30**